*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 8 (168) ◈ 23 лютага 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.



## ПОСТУП ТЫДНЯ

*ЯК ПАВЕДАМЛЯЛАСЯ У ПРЭСЕ, ДЭПУТАЦКАЯ ГРУПА «12 СНЕЖНЯ» У ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЕ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ ВЫСТУПІЛА З ПРАПАНОВАЙ правесці сумеснае пасяджэнне парламентаў Расіі, Украіны і Беларусі і звярнулася да сваіх калег з сумежных краін за падтрымкай. У гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» наконт гэтага пытання Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мячыслаў Грыб сказаў: «Я падтрымліваю ўсе крокі, якія накіраваны на кансалідацыю і аб'яднанне намаганняў краін СНД. Я лічу, што ў прынцыпе такое сумеснае пасяджэнне магчыма. Наколькі я разумею, гаворка не ідзе аб аднаўленні адзінай дзяржавы, а аб адрэгуляванні агульных накірункаў заканадаўства ў сферы эканомікі. Сама мэта — аднаўленне дзяржавы — пакуль не ставіцца». Пакуль...*

У МІНУЛУЮ ПЯТНІЦУ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ НАВЕДАЎ МАСКВУ, дзе сустрэўся і меў гутарку з кіраўніком расійскага ўрада Віктарам Чарнамырдзіным. Былі абмеркаваны пытанні, звязаныя з аб'яднаннем грашовых сістэм Беларусі і Расіі і вынікі работы экспертаў па падрыхтоўцы адпаведных дакументаў. Мяркуецца, што на днях у Менск прыбудзе В. Чарнамырдзін.

*17 ЛЮТАГА САВЕТ МІНІСТРАЎ ЗАЦВЕРДЗІЎ ФОРМУ БЕЛАРУСКАГА ПРЫВАТЫЗАЦЫЙНАГА СЕРТЫФІКАТА. 1 красавіка філіялы Ашчадбанка пачнуць яго выдаваць грамадзянам нашай краіны.*

ЗГОДНА З ПАВЕДАМЛЕННЕМ БЕЛІНФАРМА, СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ В. КЕБІЧ ЗАПЛАНАВАЎ на другую палову года візіт у Злучаныя Штаты Амерыкі. Падрыхтоўка да візіту пачалася.

*ГРУПА САЦЫЁЛАГАЎ ПА ЗАКАЗУ УПРАЎЛЕННЯ ІНФАРМАЦЫІ І ГРАМАДСКІХ СУВЯЗЕЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРАВЯЛА ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ, у якім прынялі ўдзел 268 менчукоў. На пытанне, хто з беларускіх палітычных лідэраў здольны вывесці рэспубліку з крызісу, 31,2 працэнта апытаных адказалі: «такіх няма», 30,4 працэнта наогул не далі адказу. На карысць Кебіча выказаліся 10.3, за Лукашэнку — 6,8, Грыба падтрымалі 4,2 працэнта.*

У МЕНСКУ Ў ЗАЛЕ ПАСЯДЖЭННЯЎ МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ АДБЫЛАСЯ ЎСТАНОЎЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ асацыяцыі кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі. Прэзідэнтам Асацыяцыі большасцю галасоў абраны Сяргей Кузьмін.

*18 ЛЮТАГА УПЕРШЫНЮ НА АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ УЗНЯТЫ ДЗЯРЖАЎНЫ СЦЯГ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Сярэбраным прызёрам Алімпіяды-94 стаў канькабежац Ігар Жалязоўскі.*

ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА! Да канца падпіскі на «Наша слова» засталося два тыдні. Паспяшайцеся! Газета ў кіёсках прадаецца ў вельмі абмежаванай колькасці. Звесткі пра «Наша слова» ёсць у падпісным каталогу на другі квартал 1994 года. На газету можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі. Заставайцеся і надалей з намі, не пашкадуеце.

## *Не кранайце нашу мову*

Маскоўскае Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны распаўсюдзіла Зварот да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, што выступаюць супраць дзяржаўнасці беларускай мовы, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Падчас абмеркавання на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі 17-га артыкула праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, вы, як паведаміла газета «Звязда» ў № 225 за 1993 год, зноўку выступілі супраць замацавання за беларускай мовай статуса дзяржаўнай, бо галасавалі супраць, устрымаліся альбо не бралі ўдзелу ў галасаванні.

Мы вельмі добра разумеем, што няма ніякага сэнсу зноўку звяртацца да вашага розуму ці сумлення, каб пераканаць вас, бо неаднойчы ўжо рабілі гэта раней. Мы ўпэўніліся, што вы свядома змагаліся за тое, каб Беларусь была калоніяй, а беларускі народ жыў дрэнна і асіміляваўся, каб на Беларусі па-ранейшаму панавала мова чужой дзяржавы. Вы свядома змагаецеся супраць адраджэння і дабрабыту, незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, бо добра ведаеце, што вольная і багатая Беларусь і вашая ўлада над ёй несумяшчальныя.

Спыніцеся, спадары! Не кранайце нашую мову! Яна павінна застацца і быць сапраўды адзінай дзяржаўнай мовай на Беларусі! Калі ж вы насуперак развазе нададзіце статус дзяржаўнай яшчэ і расійскай мове, ведайце, што мы, свядомыя беларусы, будзем за сваю мову, за сваю сінявокую Беларусь змагацца. Тады ні Масква (а яна першая вас здасць), ні міжнародная грамадскасць не выратуюць вас ад пакарання, а мы, расійскія беларусы, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя і немагчымыя сродкі, не дадзім вам схавацца ў Расіі».

*У газетах*

## Казахстан адмаўляецца ад 85 мільёнаў долараў, каб толькі не мець залежнасці ад Расіі

Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў, які доўгі час быў амаль сімвалам аднаўлення СССР і тым больш стварэння «рублевой зоны нового типа», спачатку замест гэтай «зоны» ўвёў нацыянальную валюту, а зараз пайшоў яшчэ далей — нават перапампоўванне нафты па расійскай тэрыторыі лічыць небяспечным, чым здзівіў, як паведамляе карэспандэнт «Известий», прэзідэнта ЗША Клінтана. У якасці падтрымкі эканамічнага супрацоўніцтва з Расіяй па нафце Назарбаеву было прапанавана дадаткова 85 мільёнаў долараў, аднак казахскі прэзідэнт не даў сябе ўгаварыць. Ён лічыць таксама небяспечным для краін СНД прэтэнзіі некаторых высокапастаўленых афіцыйных асоб у Маскве на «особые» інтарэсы Расіі ў гэтых краінах і імкненне мець там ваенныя базы. Усё гэта, падкрэсліў Нурсултан Назарбаеў, «не выклікае даверу».

Ул. Ас.

## Думку спецыялістаў Саўмін ігнаруе?

Прафсаюзны штотыднёвік «Беларусі час» (№ 5, 31 студзеня г.г.) змясціў артыкул Людмілы Шыманскай «Грошы — не фанцікі для гульняў». Матэрыял прысвечаны пытанню аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі, чаго зараз настойліва дамагаецца наш Саўмін. У прыватнасці, паведамляецца, што вынікі такога аб'яднання для Беларусі былі нядаўна разгледжаны на міжнароднай канферэнцыі, арганізаванай ў Менску Беларускім народным фронтам і Фондам Сораса. Удзельнікі канферэнцыі, эканамісты самай высокай кваліфікацыі адмоўна паставіліся да аб'яднання грашовых сістэм і падкрэслілі, што яно не дазволіць Беларусі выйсці з крызісу. У артыкуле адзначаецца, што гэтую пазіцыю падзяляюць і эксперты з Міжнароднага валютнага фонду. Але Саўмін глухі да парад спецыялістаў, якія, да слова, даюць іх зусім не бясплатна. Л. Шыманская паведамляе, што «адзін з буйнейшых эканамістаў ЗША Джэфры Сакс за 50 тыс. долараў дзве гадзіны нагаворваў на саўмінаўскі дыктафон свае рэкамендацыі па пераходу да рынку», але гэтым запісам так ніхто і не карыстаўся.

М. В.

*Глядзі ў корань*

## АНЕКДОТЫ НА БЕЛАРУСКІМ ТЭЛЕБАЧАННІ

Неяк паспрабаваў абмяняцца са знаёмымі ўражаннямі пра перадачы Беларускага тэлебачання. Усе адмахваюцца: «А, не магу, пераключаю». Чаму? Ды нерваў, кажуць, не хапае анекдоты іхнія слухаць! Вось табе і маеш. Анекдоты ж якраз такі літаратурны жанр, які дапамагае не звар'яцець ад пакручастай нашай рэчаіснасці, успрымаць яе з усмешкай разумення. Ну як іначай глядзець, прыкладам, тэлерэпартаж, дзе журналіст з заспанымі вачыма, падсунуўшы дудку мікрафона вялікаму начальніку ад афіцыйнай, урадавай юстыцыі, практычна ці не падбухторвае да «распраўных» сродкаў супроць акаянных забастоўшчыкаў? Ад асалоды, відаць, журналіст нават чмокае губамі, калі чуе, што гэных сродкаў «законнага» ўздзеяння на неслухаў і «смутьянов» назапашана процьма. А самім «парушальнікам законнасці» нават здалёк каўкнуць не даецца: чаго гэта яны паддаюцца на агітацыю «нездоровых экстремистско-националистических элементов», чаго іх хвалюе нейкая «прыхватызацыя» і здань масавага жабрацтва, калі начальства на месцы?

Ці калі высокапастаўлены дзеяч, пахадзіўшы з мудрым выглядам па калгасным двары, затым на сходзе радасных сялян (аператар некалькі разоў фіксуе, як яны пляскаюць у далоні і скачуць «барыню з лявоніхай»), дзеліцца сваімі новымі думкамі пра светлае заўтра. Слухачы ў адказ хоць і варушаць губамі, але агучвае іх тэлежурналіст. Ну вядома ж, ён спецыяліст па гаварэнні і пераказжа думкі «тружеников» як мае быць і без непажаданых для начальства «эксцессов». «Весела на душы, радасна на душы!» — як спявалі ў застойную пару, ад падобных тэлеперадач, ад такога самааддананага служэння народу, на чые падаткі тэлебачанне і корміцца.

А яшчэ па вечарах для нас пяцімінутку смеху наладзілі, каб расслабляліся, значыць, пасля дзённага напружання ў чэргах. І вось у суботу, 12 лютага, добры акцёр Віктар Філатаў усміхаючыся надзявае акуляры і абвяшчае: нас ашчасліві дацэнт і кандыдат навук Іван Шпадарук — прыслаў новыя анекдоты. Асабліва радасна не таму, што тэксты гэтыя на расійскай мове, не з-за «інтэрнацыянальнага» зноў жа зместу, вядомаму з часоў «Дэкамерона», а яшчэ і з прычыны іх папулярнасці ў асяродку аматараў піва.

Прачытае Філатаў анекдот, прысланы дацэнтам, і адразу ўключаецца фанаграма гэткага жыццярадаснага смеху. Акцёр слухае. Ці то паважліва, ці то здзіўлена-разгублена. А ў самога за шкельцамі акуляраў нешта пачынае паблісківаць. Сляза? Ад смешнай сітуацыі, у якой апынуўся? А то, можа, успомніў добры чалавек тых пакінутых за кадрам тэлерэпартажаў пікетчыкаў-стачачнікаў, што ў гэты самы марозны вечар недзе ў халодным бараку ўпарта малююць свае плакаты, якія ўсё роўна потым на «законных падставах», як абвясцілі ўжо ва ўсіх сродках масавай інфармацыі Саўміна ўладныя юрысты, адбяруць дзецюкі з гумавымі дубінкамі. Дзіўныя летуценнікі. Куды спакойней піць піва, яно напаўняе страўнік і дае адчуванне сытасці і лагоднага спакою, пад што так добра ўспрымаецца інтым-анекдот, калі нават знікла вобла.

Нешта, праўда, мільгане часам у вачах і такое, быццам вось-вось акцёр скажа прама ў аб'ектыў: «А цяпер паслухайце хаця б і гэты ардынарны анекдот, але на мове беларусаў. Ці лепей — я вам зараз нештачка выдам з тутэйшага фальклору»... Магчыма, наступным разам так і будзе, таму я ўсё ж зноў уключу тэлевізар, калі Віктар Філатаў пачне расказваць анекдоты, бо працягваю верыць у ягоны талент.

Ул. АСІНАЎСКІ.

**АЛЕ!**

# ПІНСКІ ГАРКАМ КАМСАМОЛА ДЗЕЙНІЧАЕ І... ПАГРАЖАЕ

У рэдакцыю прыходзяць лісты рознага зместу, у тым ліку водгукі на газетныя публікацыі, але гэты, прызнацца, асабліва здзівіў. Неяк апошнім часам многія пачалі думаць, быццам мінулае назаўжды застанецца гісторыяй, не вернецца, нягледзячы на тое, што адбываецца ў вышэйшых колах улады. Ліст на афіцыйным бланку з грыфам арганізацыі, пра якую мы таксама пачалі думаць, быццам яна адышла ў гісторыю,— «Всесоюзный (?!) ленинский коммунистический союз молодежи. Пинский городской комитет ЛКСМ Белоруссии». Паколькі гэты дакумент уяўляе безумоўную грамадскую цікавасць, прывядзём яго поўнасцю і на мове арыгінала, апусціўшы толькі адну фразу, прычына будзе растлумачана ніжэй.

*«В редакцию газеты*

*«Наша слова»*

**В № 52 (160) Вашей газеты опубликована заметка «Зазімак у Пінску». Излагая свою точку зрения на некоторые события последнего времени в нашем городе, ее автор А. Гулак (с которой я имел непродолжительную беседу в городском комитете) позволила себе неуважительное отношение к инакомыслию. Пусть это... Однако нельзя пройти мимо прямого искажения фактов и обвинения участников октябрьской демонстрации в уголовно наказуемом деянии: «мужныя камсамольцы яму натаўклі пад рэбры і рукі заламалі». Это явная клевета, растиражированная Вашей газетой по всей республике. Для пинчан вся эта история с перерезанием шнура на флагштоке абсолютно ясна. Тем более (?), что сам организатор этой акции Морголь (председатель Пинской рады БНФ) в заметке «На ошибках учатся» признал: «Вынужден согласиться с критикой и признать, что, как оппонент идеям ПКБ, поступил импульсивно и политически неграмотно, препятствуя таким образом поднятию красного флага» («Пінскі веснік», 24 ноября 1993 г.) Надеемся, что редакция Вашей уважаемой газеты, введенная в заблуждение одним из своих авторов, также сумеет исправить допущенную ошибку и в ближайшее время опубликует опровержение. В ином случае мы будем вынуждены возбудить судебный иск о защите чести и достоинства, и Вам придется доказывать, что 7 ноября 1993 года на пл. Ленина в Пинске «нейкаму нефармалу натаўклі пад рэбры і рукі заламалі». Исход дела очевиден, ибо нельзя доказать то, чего не было в природе.**

***С уважением секретарь Пинского горкома комсомола М. Лобко».***

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!
УСЕСАЮЗНЫ ЛЕНІНСКІ КАМУНІСТЫЧНЫ САЮЗ МОЛАДЗІ
ПІНСКІ ГАРАДСКІ КАМІТЭТ ЛКСМ БЕЛАРУСІ
225710, Пинск, ул. Ленина, 43 тел. 2-31-92
№ ______
На № ______ от IX.01.94 г.
[illegible]

Ну вось, а мы ў рэдакцыі думалі, што ў Пінску марш па гарадскіх вуліцах на чарговую гадавіну бальшавіцкага перавароту ў Расіі адбыўся стыхійна настальгічна настроенымі пенсіянерамі і купкаю маладых летуценнікаў, якія, не зважаючы на суровую рэчаіснасць, працягваюць бяскрыўдна марыць пра камуністычны рай. У заметцы ж не названа ніводнае прозвішча, у тым ліку і тых, хто спыніў акцыю па ўзняцці эсэсэраўскага сцяга на флагштоку цэнтральнай вуліцы горада, дзе звычайна ўздымаецца дзяржаўны сімвал Рэспублікі Беларусь. У сваім афіцыйным лісце сп. М. Лабко бярэ адказнасць за правядзенне гэтай акцыі на ўзначалены ім гаркам камсамола і сцвярджае, што абраза нанесена менавіта гэтай установе. Ці тым, хто спрабаваў ўзняць сцяг? Ці службе аховы гэтай акцыі? Тады трэба назваць прозвішчы.

Цяпер растлумачым, чаму апушчана фраза з ліста М. Лабко. Бо яна можа кваліфікавацца як абраза чалавечай годнасці аўтара нашай газеты.

Можна толькі меркаваць, чаму камсамольскі сакратар у афіцыйным лісце ўжыў «непарламенцкі» выраз. Магчыма, на яго паўздзейнічала палітычная эйфарыя, якая апошнім часам пануе сярод камуністаў, якім пачало здавацца, што ўжо можна без нядаўняга камуфляжу дэманстраваць сваю непадзельную ўладу ў дзяржаве. А магчыма. М. Лабко выбілі з каляіны непрадбачаныя ім паводзіны маладой жанчыны, якую ён «запрасіў» у свой службовы кабінет. Ды «беседа» нечакана аказалася «непродолжительной». Вядома ж, не па ініцыятыве камсамольскага боса, які дзеля гэтай «акцыі» перад тым столькі стараўся, да чаго мы яшчэ вернемся.

Цяпер жа ўважліва прачытаем наступнае паведамленне М. Лабко: з непрыхаваным трыумфам ён піша, што «сам организатор акции» па спыненні правакацыйнага ўзняцця эсэсэраўскага сцяга прызнаў уласныя дзеянні імпульсіўнымі. Сапраўды, відаць, больш дальнабачным было б усё ж даць магчымасць апантаным ленінцам «водрузить» сцяг, а затым звярнуцца да пракурора ці міліцыі за тлумачэннем, наколькі ленінцы дзейнічалі ў межах законнасці. Але як прадстаўнік улады (а мы даведаліся, што сп. Марголь з'яўляецца народным дэпутатам гарсавета) грамадзянін Марголь палічыў неабходным неадкладна ўмяшацца, каб не раздзьмухваць пажар, і. відаць, ягоная аргументацыя арганізатарам акцыі ўрэшце падалася слушнай, бо сцяг на той флагшток усё ж не ўзнялі. А шнур увогуле салсаваў іншы чалавек — студэнт, малады чалавек з павышаным адчуваннем адказнасці за годнасць уласнага народа і дзяржавы, што характэрна для пераважнай большасці студэнцтва. Камсамольскаму сакратару падалося больш выгадным назваць прозвішча сп. Марголя: лідэр жа Пінскай рады БНФ! І тым не менш публічна, праз газету пакаяўся ў граху перад... ПКБ. Праўда, застаецца пытанне — а пры чым тут ВЛКСМ і фізічнае ўздзеянне некага на студэнта-пратэстанта? Але як прамінуць сенсацыю: бэнээфаўскі лідэр стаў на калені перад камуністамі — менавіта гакую танальнасць можна заўважыць у паведамленні М. Лабко. Хаця трэба было б хутчэй гаварыць аб памяркоўнасці актывістаў БНФ, якім той-сёй лепіць ярлык адной фанатычнай апантанасці. Такі поспех над «ворагам», відаць, натхніў камсамольскага сакратара, і ён узяўся за актывістаў Таварыства беларускай мовы, рынуўшыся на пошукі няштатнага аўтара «Нашага слова», які асмеліўся паведаміць грамадскасці рэспублікі пра подзвігі пінскіх ленінцаў. Ды яшчэ ў іранічнай форме. Дарэчы, подпіс пад заметкай — «А. Гулак» не ўказваў на палавы прызнак. Камсамольскаму сакратару, выходзіць, давялося зрабіць сапраўдны вышук, каб «вылічыць» аўтара. Ці ў яго ўжо меўся спіс актывістаў дэмакратычнага руху ў Пінску, у тым ліку сяброў ТБМ? На падобнае як быццам указвае і шматзначная злавесная фраза самога Міхаіла Міхайлавіча Лабко, пра што яшчэ будзе сказана.

Па нашай просьбе няштатная карэспандэнтка газеты Анастасія Анатольеўна Гулак (дарэчы, такое грамадскае даручэнне яна атрымала ад Пінскай рады ТБМ) днямі наведала рэдакцыю, азнаёмілася з лістом сп. М. Лабко і зрабіла адпаведную пісьмовую заяву.

Перш-наперш А. А. Гулак адзначыла, што раней «са спадаром сакратаром зусім не была знаёмая». Яна таксама выказала вялікае здзіўленне, што М. Лабко асмельваецца абвяргаць тое, чаму было некалькі сведкаў: да «нефармала» (а гэта быў студэнт Аляксандр Дзікавіцкі) ўдзельнікі акцыі па ўзняцці эсэсэраўскага сцяга ўсё ж скарысталі фізічную сілу — «некалькі чалавек схапілі яго за рукі і завялі іх далёка назад, абмежаваўшы свабоду перамяшчэння. Пры гэтым яго штурхалі і нават пагражалі фізічай распраўай». Наша няштатная карэспандэнтка гутарыла з А. Дзікавіцкім, і ён сказаў, што некалькі чалавек рукі яму сціснулі моцна і прычынілі значны фізічны боль.

Не выключана таксама, што могуць знайсціся і іншыя сведкі, а магчыма, і фатаграфіі эпізода. Мяркуем, і самі радавыя камсамольцы не стануць маўчаць, калі зразумеюць, у якія гульні ўцягваюць іх функцыянеры, хто ўжо зараз мае ўласны кабінет і пэўна ж аклад, а марыць пра вяртанне райскіх прывілеяў ранейшага часу, для чаго і СССР патрэбны. Спадзяёмся, самі камсамольцы спакойна на сваім сходзе гэта ўсё і абмяркуюць. Няма ніякага крыміналу і надалей марыць пра пабудову камуністычнага грамадства, але ж толькі цывілізаванымі, мірнымі сродкамі. Іншыя шляхі чалавецтву ўжо добра вядомыя: маладыя штурмавікі Рэма, насаджаючы страх у Германіі, прывялі да ўлады Гітлера, каб неўзабаве самім быць часткова знішчанымі ці ўключанымі ў СС, арганізацыю, асуджаную ўрэшце Нюрнбергскім міжнародным трыбуналам як злачынную; бальшавікі ў Расіі, расстраляўшы ў кастрычніку 1917 года з гарматы крэйсера Зімовы палац і ўзяўшы штурмам у палон законны ўрад, ператварылі затым гіганцкую краіну ў суцэльны канцлагер народаў, загубіўшы самымі жудаснымі метадамі многія дзесяткі мільёнаў мірнага насельніцтва, не кажучы пра апанентаў і нават саюзнікаў. Думайце, маладыя людзі, думайце!

Думайце, дзеля чаго вас падвучваюць узнімаць на месцы, прызначаным для дзяржаўнага, дзеля канфрантацыі эсэсэраўскі сцяг. Ды ў дадатак на месцы, як нам паведамілі, некалі палітым слязьмі і крывёю ахвяр сталінскіх рэпрэсій! А не ўдалося — загадалі вывесіць сцяг ваяўнічых бязбожнікаў у Божым храме, няхай і парушаным, але ж усё роўна для вернікаў святым месцы. Што гэта, калі не дзёрзкі выклік чалавечай маралі і хрысціянскім вернікам!

Сябры Таварыства беларускай мовы ніяк не імкнуцца да канфрантацыі з камсамольцамі. ТБМ — арганізацыя, безумоўна, патрыятычная, але ж беспартыйная. Сябры ўсіх партый і палітычных рухаў уваходзяць сюды, калі яны за вольную Беларусь, за нацыянальна-культурнае адраджэнне Радзімы. Вось і Анастасія Анатольеўна Гулак, прачытаўшы расійскамоўны ліст М. Лабко, у якім наносіцца ёй знявага, тым не менш напісала: «Прапаную пінскім камсамольцам паслугі па вывучэнні дзяржаўнай мовы, а таксама магу даць кансультацыі па расійскаму правапісу». Але, мяркуем, М. Лабко напісаў свой ліст у беларускамоўную газету парасійску не таму, што не валодае дзяржаўнай мовай. Хутчэй гэта свядомая дэманстрацыя пагарды да яе як сімвала суверэннасці Беларусі ўвогуле. Такое пацвярджае, мяркуем, і бланк з грыфам «ВЛКСМ».

Пра сапраўдныя палітычныя мэты і настрої М. Лабко, думаецца, сведчыць і эпізод, згаданы ў тлумачальнай заяве А. А. Гулак, Зразумеўшы, што волю маладой жанчыны не ўдалося зламаць «беседой» ў службовым кабінеце, камсамольскі сакратар, піша А. Гулак, на развітанне «некалькі разоў сказаў: «Знайте, что вас ненадолго выпустили из подполья».

Значыць, ёсць «светлая мара» загнаць у падполле нават тых, хто асмельваецца размаўляць па-беларуску? А самім што, паўтарыць шлях папярэднікаў у 1937 годзе? Няўжо ўсе маладыя летуценнікі камунізму ў Пінску гатовы крочыць у такую «светлую будучыню», што і іхні сакратар? Ажно да новага Нюрнбергскага судовага працэсу? Нельга ў такое паверыць.

Застаюцца і наступныя пытанні:

*— Безумоўна, дазвол на кастрычніцкую дэманстрацыю і мітынг прыхільнікаў камунізму і аднаўлення СССР даў Пінскі гарсавет. А ці было дазволена ўзнімаць яўна правакацыйны сцяг на месцы дзяржаўнага? Ці прадугледжвалася пры гэтым, што падобная акцыя можа выклікаць актыўнае супраціўленне свядомых грамадзян, калі яны ўбачаць, што праваахоўныя органы не бароняць гонар дзяржаўнай сімволікі?*

*— Колькі ў сапраўднасці камсамольскіх арганізацый у Пінску і ці адпавядае іх дзейнасць статуту, калі яны зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь?*

*— Ці можа камсамольская арганізацыя, зарэгістраваная Мінюстам, адначасова з'яўляцца часткай ВЛКСМ, як гэта вынікае з ліста, прысланага ў рэдакцыю М. М. Лабко?*

*— Калі арганізацыя, кіраўніком якой называўся М. М. Лабко, сапраўды зарэгістравана ў адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь, то ці адпавядае яе статуту прывод, ·выклік або запрашэнне людзей у сваю штаб-кватэру, калі грамадзяне членамі гэтай арганізацыі ўвогуле не з'яўляюцца?*

*Нарэшце, рэдакцыя газеты «Наша слова» лічыць вышэйпамянёны інцыдэнт недапушчальнай спробай маральнага ўздзеяння на свайго няштатнага аўтара з мэтай запалохвання і ў сувязі з гэтым выказвае самы рашучы пратэст.*

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

*Ліст з каментарам*

# Якім быць беларускаму пашпарту

***Пашпарты беларускай дзяржавы, здаецца, ў наступным квартале пачынаюць ужо выдаваць, а спрэчкі вакол гэтай справы ў грамадстве і адпаведна ў прэсе не сціхаюць. Пра тое сведчыць і наша рэдакцыйная пошта. Лісты падаём з кароткімі каментарамі рэдакцыі.***

## Дык хто мы будзем?

Нядаўна пачуў, што ў новым пашпарце не будзе адзнакі аб нацыянальнай прыналежнасці ўладальніка. Мне здаецца гэта недарэчным. Спрадвеку людзі ганарыліся сваёй нацыянальнасцю, Радзімаю, культурнай і духоўнай спадчынай. Калі мы зараз ганарымся народнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам як нашымі нацыянальнымі геніямі, то кім жа стануць ганарыцца наступныя пакаленні беларусаў, калі не будуць ведаць, што яны і названыя паэты — людзі адной нацыянальнасці. Палітыка знішчэння беларусаў як нацыі праводзілася даўно, гэта рабілася спосабам фізічнай расправы і забаронай карыстацца роднай мовай. І вось новая хваля — на гэты раз вырашылі скарыстаць новую пашпартызацыю.

**М. ВАЛЬКО.**
г. Нясвіж.

**Ад рэдакцыі.** Вы, шаноўны чытач, адзначылі вельмі істотны момант — наколькі пашпартныя звесткі могуць адпавядаць сапраўднаму самапачуванню ўладальніка дакумента. Так, у нацыянальных геніяў беларусаў не было адпаведнай адзнакі ў пашпарце, выдадзеным у часы Расійскай імперыі, але яны дакладна ведалі, якому народу служаць, а вось у пэўных уладальнікаў пашпартоў савецкага часу ў адпаведнай графе хоць і стаяла адзнака «беларус», а народ свой яны прадавалі з вялікай ахвотай. Варта ўлічыць, дарэчы, і тое, што некалі запісана было палякамі нямала беларусаў з-за таго, што былі каталікамі. Ці наадварот — рускімі па прычыне іх праваслаўнай веры. Нарэшце, давайце з належнай павагай паставімся і да тых суайчыннікаў, хто даўно жыве на Беларусі і адчувае сябе непадзельным душою з усім яе народам.

У той жа час новы пашпарт ні ў каго не адбірае права адчуваць сябе прыналежным да тае нацыянальнасці, да якой хоча. Агульным з'яўляецца грамадзянства, а гэта значыць, што дзяржава ўсімі сваімі сродкамі абавязваецца бараніць правы і годнае чалавечае жыццё. Але ў сваю чаргу грамадзянін, атрымаўшы пашпарт, бярэ на сябе абавязак — спрыяць дабрабыту, еднасці і незалежнасці сваёй дзяржавы. І паколькі застаецца вызначальным прынцып: назва дзяржавы зыходзіць ад яе карэнных насельнікаў, а іх мова ёсць дзяржаўная, адсюль проста вызначыць — хто ж мы будзем. Такі адказ атрыманы ад тых дэпутатаў, якія займаліся распрацоўкай новага беларускага пашпарта. Іх тлумачэнні падаліся слушнымі.

## Я не «Хвіліповіч» і не «Алесь»!

У вашай газеце з'явіўся артыкул А. Мальдзіса, Г. Цыхуна і В. Рагойшы наконт новага беларускага пашпарта. Гэтыя людзі, ні мала, ні многа, прапануюць маё спрадвечнае прозвішча Філіповіч замяніць на Піліповіч. А хто ім даў такое права? Ці не занадта многа адказнасці яны бяруць на сябе? Ці яны думаюць, што беларусы не могуць выгаварыць гук «ф»? Таксама, як і некаторыя іншыя гукі? А яшчэ прафесары!

Мой дзед, мой бацька і я былі і ёсць Філіповічы, і ніколі Піліповічамі ці Хвіліповічамі не будзем. Мяняць літары ў прозвішчах, імёнах, асабліва пачатковыя, трэба вельмі асцярожна, каб яны не выглядалі смешнымі, каб людзі не падумалі і не гаварылі, што гэта штучнае. Даяце ім козыр у рукі! Таксама я не згодзен на замену майго імя на Алесь. Мяне хрысцілі Аляксандрам, і другім я быць не хачу. Яно мне падабаецца, а Алесем часам завуць хлапчукоў...

Падчас немцаў я хадзіў у школу. У нас былі настаўнікі — шчырыя беларусы, яны добра ведалі беларускую мову і гісторыю. І я добра помню, што толькі аднойчы адзін настаўнік гаварыў, што лепей каталіцкае імя Юзаф перакладаць на беларускую мову не як Іосіф, а як Язэп. Наконт іншых імён і гутаркі не было. Яны, праўда, толькі трохі падпраўляліся на беларускі лад. (Васілій — Васіль, Елена — Алена, Яўгеній — Яўген, Нікалай — Мікалай), каталікі пісаліся Янамі (а не Янкамі), праваслаўныя ж — Іванамі, і гэта правільна. Галоўнае, каб чалавеку падабалася яго імя, і не варта яго перакручваць.

Не трэба займацца перакладамі, аб якіх пісаў нядаўна адзін дзеяч у «Народнай газеце»! Нейкі пісьменнік ці журналіст «смейся, паяц, над разбитой любовью» пераклаў так: «рагачы, бамбула, над раздрыпаным каханнем», а Кащея Бессмертного перарабіў у Здыха Бессмяротнага.

Я прашу, каб спадары Мальдзіс, Цыхун і Рагойша прачыталі маё пісьмо. А мо раптам пойдзе на карысць? Яны ж павінны ведаць, якія ёсць думкі ў народзе.

**А. ФІЛІПОВІЧ.**
**г. Менск.**

**Ад рэдакцыі.** Перачытаўшы артыкул «прафесараў», як, на вялікі жаль, здзекліва азваўся пра іх наш шаноўны чытач, мы не заўважылі, каб яны жадалі прымусам перарабіць усе імёны на «беларускі» капыл. Яны толькі за тое, каб і беларусы нарэшце атрымалі роўную з астатнімі магчымасць у адпаведнай нацыянальнай форме ўпісваць сваё імя ў пашпарт. Пагаджаемся з шаноўным чытачом, каб ён пісаўся Аляксандрам, калі яму гэта даспадобы, але мусім напомніць, што там, дзе гэтае імя ўзнікла, яно пішацца ўсё ж не так, як у рускай мове. І Іосіф у яўрэйскай мове, адкуль яго радавод, пішацца інакш, чым у нас, і англійскі Уільям у амерыканцаў часцей гучыць як Біл, нават калі гэта вельмі паважаны прэзідэнт. А што да прыкладаў «няўдалага» перакладу слоў з оперы «Паяцы» ды імя казачнага героя, то гэта кпіны з нашай мовы. І да іх трэба ставіцца як да іншых відаў абразы. Ніхто з нас не чуў слоў «раздрапанае» і «Здых». Каб правільна перакласці арыю з «Паяцаў», трэба ведаць арыгінал, таму што, верагодна, расійскі пераклад адвольны. А казачнага героя ў нас завуць Кашч Несмяротны.

*Госці рэдакцыі*

# ДЗЕЦІ — КЛОПАТ БОЖЫ

***(Айцец Аляксандр Надсан зноў прыехаў на Беларусь)***

**— Айцец Аляксандр, Вы ў чарговы раз наведалі Беларусь з дабрачыннай місіяй — прывезлі дзецям Чарнобыля гуманітарную дапамогу. Скажыце, калі ласка, ці доўга мы яшчэ можам разлічваць на міласэрнасць замежных хрысціян у адносінах да ахвяр Чарнобыльскай катастрофы?**

— Скажу, што з кожным разам збіраць ахвяраванні становіцца ўсё цяжэй, паколькі дата чарнобыльскай бяды аддаляецца ў часе і людзі пра яе забываюць. Але ж хворых дзетак трэба ратаваць. Тут мы бачым два шляхі: першы — гэта вывозіць дзяцей на аздараўленне за мяжу, і другі — дапамагаць ім на месцы. Пажадана вывозіць дзяцей аслабленых, але не надта хворых, каб умацаваць іх здароўе. Тым, хто не можа выехаць з прычыны цяжкага стану здароўя, патрэбна наша дапамога дома. Гэтыя дзеці — асноўны наш клопат, да іх мы і ездзім.

**— Якім чынам Вамі размяркоўваецца дапамога?**

— Пры дапамозе дабрачынных камітэтаў. Праблема толькі ў тым, што іх утварылася вельмі шмат, часам не ведаем, з кім супрацоўнічаць. У большасці з іх працуюць сумленныя людзі, але нам на Захадзе цяжка разабрацца, хто сумленны, а хто хоча на гэтым «пагрэць рукі». Цяпер дабрачынная дзейнасць знаходзіцца ў крызісным стане. Найбольш плённа працуюць дабрачынныя арганізацыі ў Нямеччыне, Францыі і Італіі. Але ім не па сілах дапамагчы ўсім пацярпелым дзецям. Калі бываю ў вашых бальніцах на правінцыі, то складваецца ўражанне, што каб не нашы лекі, то лячыць хворых не было б чым. Пра гэта нават страшна падумаць. Дай Бог, каб мы яшчэ больш дапамагалі чарнобыльцам, але ж тая крыніца, што жывіць нашу дзейнасць, можа абарвацца ў адзін дзень. І, на маю думку, беларускі ўрад павінен шукаць тэрмінова нейкае выйсце, бо гэта справа выжывання ўсёй нацыі.

**— Вядома, што ў Менску Вы падтрымліваеце сувязь з фондам «Сакавік», які ўзначальвае Марыя Міцкевіч, а ў Магілёве з камітэтам «Дзеці Чарнобыля». Відавочна, што Вашы памочнікі ёсць і ў іншых гарадах Беларусі. Якія стаяць перад імі задачы?**

— Іх галоўная мэта завязаць кантакты з бальніцамі, радзільнымі або дзіцячымі дамамі і садкамі, якім патрабуецца дапамога. Мы тады лекі перадаём не ў камітэт, а непасрэдна гэтым установам. На Захадзе мы робім усё, што толькі можам, каб дапамагчы, але гэтага ўсё роўна недастаткова.

**— Айцец Аляксандр, на маю думку, нашым чытачам будзе цікава пачуць пра Вашу пастырскую дзейнасць на Беларусі.**

— Дай Бог, каб рэлігію не выкарыстоўвалі для мэт, якія не маюць нічога агульнага з ёю. Асабліва ў справах нацыянальных і палітычных. Трэба, каб усе нашы пастыры былі сапраўды пастырамі сваёй паствы. А да беларусаў усё ж трэба несці слова Божае на іх роднай мове. Не наша справа займацца палітыкай. Наша справа несці слова Божае да людзей у форме найбольш даступнай і найбольш зразумелай. Гэта не палітыка. Так кажа цвярозы розум. Бог нас ушанаваў, стаўшы чалавекам. Наш абавязак шанаваць сваіх вернікаў. Калі я скажу чалавеку, што яго мова дрэнная, не прыдатная для таго, каб на ёй славіць Бога, то я толькі гэтым яго зняважу. Чым жа беларуская мова, якую я пачуў упершыню з вуснаў маёй маці, горшая за іншыя мовы? Чаму ж я на ёй не магу славіць Бога? Тут я павінен сказаць, што ўсе грэка-каталікі, якія ёсць не толькі ў Менску, а па ўсёй Беларусі, не маюць праблем з беларускасцю. Але гэтыя вернікі занядбаныя, бо не маюць святароў. Праўда, цяпер шмат семінарыстаў вучыцца ў Лондане, у Любліне і на Украіне. У Рыме ёсць таксама семінарыст грэка-каталік. Калі ўсё пойдзе добра, то за пару гадоў будуць падрыхтаваны маладыя святары для уніяцкіх храмаў.

**— Якая, на Вашу думку, будучыня беларускіх уніятаў?**

— Нічога пэўнага сказаць зараз нельга. Мы спадзяёмся, што для іх знойдзецца месца ў жыцці вольнай Беларусі. Цяпер шмат гавораць пра унію, пра месіянерства, пра наварочванне ў іншую веру. Але мы гэтым не займаемся, бо гэта ёсць прыкрая справа. З другога боку, мы маем права дамагацца свабоды веравызнання, а таксама магчымасці маліцца паводле нашага абраду.

**— Як Вам бачацца міжканфесійныя стасункі на Беларусі ў будучым?**

— Дай Божа, каб была згода. Я заўсёды падкрэсліваю, што рэлігійныя перакананні для кожнага чалавека яму такія ж дарагія, як мае перакананні для мяне. Хоць я магу з імі не пагаджацца, але я не маю права абражаць і зневажаць гэтага чалавека і яго рэлігійныя перакананні. Мы сваімі штодзённымі адносінамі да іншых людзей павінны паказваць праўдзівасць нашай веры. Я не ўяўляю сабе жыцця без Бога. Кожны хрысціянін павінен жыць з Богам, па-братэрску адносіцца да іншых людзей, да людзей іншых канфесій, бо ўсе мы створаны Богам. Мы не маем права нікога абражаць і зневажаць. У мінулым міжканфесійныя адносіны былі вельмі дрэнныя: сваркі, палемікі... У гэтым былі вінаватыя ўсе. Як каталіцкі святар я магу сказаць, што ў гісторыі каталіцкай царквы ёсць шмат чаго, чым мы таксама не можам ганарыцца.

**— Айцец Аляксандр, хацелася б ад Вас даведацца, як цяпер да нас, беларусаў, ставяцца ў Вольным свеце?**

— Напачатку было больш сімпатый да Рэспублікі Беларусь. А цяпер з такой паблажлівасцю да нас ставяцца, з усмешачкай... Мне сумна пра гэта казаць. Не вераць, што Беларусь сапраўды незалежная і суверэнная, некаторыя кажуць: яе сапраўдная назва не Белая Русь, а Русь. У гэтым вінаваты трошкі самі беларусы. Скажам, прыязджаюць нашы дыпламаты ці міністры за мяжу. Там у іх гонар наладжваецца прыём, на якім ангельскі прадстаўнік вітае на ангельскай мове, а наш беларускі дыпламат адказвае яму па-расейску. Перакладчык таксама ўсё перакладае на расейскую мову. Ангельцу ўсё роўна. Ён не ведае ні беларускай, ні расейскай мовы. Але заўсёды ў такой грамадзе знойдзецца чалавек, які ведае, скажам, расейскую мову. Так заўсёды бывае. І што ён скажа? Беларусы не маюць сваёй мовы. Некалі мы прасілі, каб на Бі-бі-сі зрабілі беларускую праграму. Нам адказалі, што яны не бачаць такой патрэбы, паколькі на Беларусі ўсе гавораць па-расейску.

Калі я прыязджаю ў Беларусь, то адразу ў аэрапорце ўражвае тое, што няма бланкаў таможнай дэкларацыі на беларускай мове. Паколькі мне справа нацыянальнага адраджэння блізкая, я найперш наведваю так званыя беларускамоўныя «астраўкі» ў Менску: рэдакцыі беларускамоўных газет, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і іншыя беларускія ўстановы, таму застаецца ўражанне, што родным словам карыстаюцца ў грамадстве. Але ўчора я меў сустрэчу з шатландскім грамадзянінам, які хацеў перадаць дапамогу ахвярам Чарнобыля. З ім была перакладчыца. Яна нарадзілася і ўзгадавалася ў Менску, але на мяне яна зрабіла ўражанне чужаземкі: добра гаворачы па-агнельску, яна нічога не ведала пра Беларусь і ні слова не сказала па-беларуску. Гэты выпадак мяне моцна ўразіў. Мы гаворым пра адраджэнне беларускасці, а колькі яшчэ ёсць людзей, далёкіх ад гэтай справы. Яшчэ адзін прыклад. Нядаўна я атрымаў ліст з дзяржаўнага аб'яднання «Менская пошта». Просяць дапамагчы знайсці агенцтва ў Англіі, каб распаўсюджвала беларускую прэсу. Ліст напісаны на расейскай мове. Мы пражылі пяцьдзесят гадоў за мяжой і захавалі сваю родную мову, і, безумоўна, такія лісты нас зневажаюць. Такія маленькія інцыдэнты гавораць пра тое, як яшчэ далёка беларусам да разумення сваёй дзяржаўнасці. Уражанне ад яе такое: расейская правінцыя. Нам гэта баліць. Ёсць міністры, якія паважаюць родную мову, гавораць на ёй, як, напрыклад, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Гэта трэба прызнаць. Але такіх, як ён, — адзінкі.

**— Вашы пажаданні «Нашаму слову»?**

— Калектыву рэдакцыі жадаю плёну ў працы, такой цяжкай, але адначасна і вельмі патрэбнай, бо, як ні дзіўна, у Беларусі трэба змагацца за існаванне беларускай мовы. А чытачам хацеў бы пажадаць, каб яны чыталі і шанавалі «Наша слова», каб іх з кожным разам было ўсё болей. Няхай жыве і пашыраецца «Наша слова»!

**Распытвала**
**Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Меркаванні*

**Нядаўна ў сталічным Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння Ядвігіна Ш. (Антона Іванавіча Лявіцкага).**

**У маю памяць гэты пісьменнік увайшоў ад майго бацькі Мяфодзія Іванавіча — настаўніка з 1912 года. Згадваю, як бацька чытаў дзецям апавяданні «Вучоны бык», «Дачэсныя», «Павук». Бацька падкрэсліваў на ўроках, што літаратурная спадчына Ядвігіна Ш.— з'ява ў беларускай літаратуры арыгінальная і цікавая. Пісьменнік прымушаў чалавека высмейваць свае недахопы: някемлівасць, п'янства, гультайства, ён заклікаў верыць у творчыя сілы беларусаў, а кожнаму — займацца маральным самаўдасканаленнем.**

# Сённяшняе прачытанне Ядвігіна Ш.

На вечарыне успомніў я і бацькавы разважанні аб Ядвігіне Ш., а пасля перачытаў яго творы. Цяпер разумею, што ў сваіх алегарычных апавяданнях 1912—1914 гадоў пісьменнік яскрава і вобразна намаляваў становішча беларусаў у пачатку XX стагоддзя.

Асабліва раю чытачам азнаёміцца з артыкулам Ядвігіна Ш. «В. Марцінкевіч у практычным жыцці». Сярод іншага сёння тут варта засяродзіць увагу на пэўных гістарычных паралелях. У артыкуле прыводзіцца прыклад нашых братоў-чэхаў. У XVI стагоддзі іх нацыянальная культура стаяла вельмі высока. Але ў ходзе трыццацігадовай вайны чэшскія арыстакраты былі знішчаны ці ўцяклі з роднага краю, іх месца занялі немцы. Нацыянальная свядомасць чэхаў стала гінуць. Таму у XVIII стагоддзі іх мову слушна лічылі заняпалай. Але напачатку XIX стагоддзя чэшская мова пачынае ажываць. Народ пачаў змагацца за яе. Ядвігін Ш. піша: «Нам, беларусам, варта вучыцца ў іх вытрываласці і тых спосабаў, якія яны ўжываюць і цяпер для самаабароны ад няпрошаных апекуноў». Аб сродках, якія былі ўжыты для тагачаснага адраджэння чэшскай мовы, «Наша слова» нядаўна пісала. Таму паспрабую на іх грунце скласці адпаведныя правілы паводзін для беларусаў, захоўваючы накірунак адпаведных думак Ядвігіна Ш.:

кожны беларус павінен старацца гаварыць як мага лепш па-беларуску, цурацца слоў і зваротаў чужой мовы;

беларускія дзеці павінны сябраваць з дзецьмі беларусаў і гаварыць заўсёды па-беларуску;

сям'я, перад тым як аддаць дзяцей у школу, павінна навучыць іх дома любіць Бацькаўшчыну як найвялікшую каштоўнасць жыцця, па магчымасці навучыць да школы чытаць па-беларуску;

беларускае дзіця павінна хадзіць у беларускую школу:

беларуская хата павінна быць прыбрана беларускімі гістарычнымі малюнкамі і партрэтамі (Т. Касцюшка, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч...);

беларускае дзіця павінна вучыцца беларускім прыказкам, вершам, песням, танцам і гульням;

дома шанаваць і трымацца нацыянальных звычаяў, святкаваць гадавіны гістарычных дат і падзей Беларусі;

у першую чаргу чытаць беларускія кнігі, кнігі беларускіх аўтараў пра наша мінулае...

выпісваць беларускія газеты прагрэсіўнага накірунку;

хатнім багаццем павінна быць бібліятэка беларускіх кніжак і часопісаў;

гаварыць па-беларуску не толькі дома, а і на вуліцы, у магазіне, усюды, дзе бываеш;

сем'і беларусаў павінны сябраваць паміж сабой і ва ўсім дапамагаць адна адной;

беларус павінен рэгулярна наведваць беларускія тэатры і народныя святы і сцерагчыся ўсяго, што можа зняважыць яго нацыянальную годнасць;

купляць пераважна беларускія вырабы, дапамагаць нацыянальным рамеснікам;

выконваць запавет Статута Вялікага Княства Літоўскага: у чужыя рукі недры, зямлю, лясы, нівы, ваду — не даваць, да ўлады чужынцаў не дапушчаць. На беларускай зямлі гаспадарамі павінны быць толькі беларусы, а не чужынцы;

грошы ці то складаць, ці пазычаць толькі ў беларускіх банках, якія працуюць на карысць беларускай дзяржавы;

беларуская сям'я павінна сумленна працаваць, сваёй працай множыць дабрабыт, выконваць дзяржаўныя нацыянальныя павіннасці;

беларус павінен абавязкова выкарыстоўваць свае правы на выбарах. Галасаваць за тых, хто валодае беларускай мовай, хто бароніць інтарэсы беларускай зямлі, хто прызнае праграму нацыянальнага Адраджэння і робіць усё магчымае для яе выканання;

дарослыя і дзеці запісваюцца ў беларускія суполкі, якія прызнаюць незалежнасць і вольнасць Рэспублікі Беларусь, інтарэсы беларускага народа ставяць на першы план, прызнаюць гістарычна-культурную спадчыну беларусаў як здабытак многіх пакаленняў продкаў.

Вось на такія думкі мяне навяла вечарына, прысвечаная Ядвігіну Ш.

**Леанід ЦЫГАНКОЎ,**
**палкоўнік запасу.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

### Хто такі Вацлаў Іваноўскі?

Вацлаў Іваноўскі — адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Нарадзіўся ён у 1880 годзе ў шляхецкай сям'і ў маёнтку Лябёдка, недалёка ад мястэчка Васілішкі Лідскага павета. Рана ўсвядоміў сябе як беларус. У часе вучобы ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце ў 1902 годзе з групай аднадумцаў (А. Пашкевічанка, І. Луцкевіч і інш.) спрабаваў наладзіць выданне на гектографе падпольнай газеты «Свабода» як перыядычнага органа Беларускай рэвалюцыйнай партыі. Аднак пры нявысветленых абставінах амаль увесь наклад першага нумара давялося знішчыць. У 1903 годзе Іваноўскі ўдзельнічаў у заснаванні Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады.

У 1906 годзе ўзначаліў славутую выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу. Першымі кніжкамі суполкі былі падручнікі «Беларускі лемантар, або першая навука чытання» і «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі. Усяго было выдадзена 38 кніг (у тым ліку шэсць першых кніг Янкі Купалы) агульным накладам болей за 100 тысяч паасобнікаў.

Суполка і асабіста В. Іваноўскі адыгралі значную ролю ў згуртаванні на грунце нацыянальна-культурнай дзейнасці беларускай студэнцкай моладзі. У ліпені 1913 года В. Іваноўскі пераехаў у Вільню, дзе стаўся старшынёю Беларускага выдавецкага таварыства (Я. Купала быў яго сакратаром). Паспяховую дзейнасць таварыства спыніў наступ немцаў. За два гады яно выдала 14 кніг агульным накладам блізу 45 тысяч паасобнікаў.

Адначасова з актыўным удзелам у нацыянальна-вызваленчым руху В. Іваноўскі займаўся навуковай дзейнасцю. У 1909 годзе ў Мюнхене абараніў доктарскую дысертацыю і да 1913 года быў дацэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Іваноўскі стварыў першы падручнік неарганічнай хіміі для ВНУ на беларускай мове, шмат зрабіў у распрацоўцы нацыянальнай навуковай тэрміналогіі. У 20—30-я гады ад беларускага нацыянальнага руху адышоў, займаўся амаль выключна навукай.

Да актыўнай палітычнай дзейнасці вярнуўся ў часе Другой сусветнай вайны. Акупацыю Беларусі разглядаў як часовую з'яву. Арыентаваўся на заходніх праціўнікаў Гітлера, а ў сувязі з гэтым — на польскі эміграцыйны ўрад у Лондане, разлічваючы на федэрацыю Беларусі і Польшчы ў паваеннай Еўропе. Аднак паразумецца з палякамі не ўдалося, бо яны ўпарта стаялі на платформе Рыжскага трактату і разглядалі Заходнюю Беларусь як польскія землі.

3 лістапада 1941 года — бургамістр Менска, на гэтай пасадзе шмат зрабіў для ратавання людзей ад рэпрэсій акупантаў. Улетку 1943 года з ініцыятывы групы В. Іваноўскага было створанае нелегальнае Беларускае нацыянальна-дэмакратычнае аб'яднанне дзеля згуртавання сіл, якія мелі на мэце адбудову пасля вайны беларускай дзяржаўнасці.

7 снежня 1943 года В. Іваноўскі быў забіты на адной з вуліц Менска. Ёсць падставы меркаваць, што забойства было ўчынена са згоды гаўляйтэра Беларусі фон Готберга.

**Міхась БІЧ.**

### Хто такі Вацлаў Ластоўскі?

Імя і дзейнасць гэтага чалавека доўгія гады выкрэсліваліся з гісторыі Беларусі і свядомасці грамадства. Рэдкія ж згадкі суправажаліся нязменным ярлыком «буржуазнага нацыяналіста».

Нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі ў 1883 годзе ў фальварку Калеснікі Дзісенскага павета (цяпер Мёрскі раён). Пасля сканчэння народнай школы здольны да гуманітарных навукаў юнак вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. Аднак матэрыяльныя цяжкасці не дазволілі прайсці поўны курс адукацыі, і Ластоўскі мусіў самавукам набываць універсальныя энцыклапедычныя веды.

З 1906 года жыў і працаваў у Вільні. Тады, уступіўшы ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду, абраў шлях служэння свайму народу. Працаваў у рэдакцыі газеты «Наша Ніва», быў сябрам і паплечнікам Я. Купалы, Я. Коласа, А. Уласава, М. Багдановіча, А. Пашкевічанкі, іншых дзеячаў нашага адраджэння. Менавіта ў публікацыях на старонках «Нашае Нівы» раскрыўся ягоны талент публіцыста, гісторыка, пісьменніка. Ён аўтар першай «Кароткай гісторыі Беларусі» (1910 год).

У 1916—1917 гадах В. Ластоўскі выдаваў газету «Гоман». У 1919 годзе ўступіў у Беларускую партыю сацыялістаў - рэвалюцыянераў (эсэраў). Быў гарачым прыхільнікам і адным з галоўных ідэолагаў незалежнасці Беларусі. Са снежня 1919 года — Старшыня Рады міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі, а з 1920 года — прэм'ер-міністр эміграцыйнага ўрада. Браў удзел у працы міжнародных канферэнцый, форумаў, на якіх ад імя ўрада БНР адстойваў ідэі нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння Беларусі, пратэставаў супраць дыскрымінацыі і прыгнёту з боку Польшчы і Савецкай Расеі.

Пасля адыходу ад палітыкі займаўся навуковай, грамадскай і выдавецкай працай. Выдаваў у Коўні часопіс «Крывіч» (1923—1927 гады). У 1926 годзе ўдзельнічаў у працы Акадэмічнай канферэнцыі ў Менску. Аўтар грунтоўнай кнігі «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўня, 1926), якая мае вялікую навуковую каштоўнасць.

У 1927 годзе, пакінуўшы спакойныя ўмовы працы на эміграцыі, В. Ластоўскі на запрашэнне ўрада БССР пераехаў у Менск, каб узяць удзел у нацыянальна-культурным і дзяржаўным адраджэнні Беларусі. Працаваў дырэктарам Дзяржаўнага музея БССР; з 1928 года ён неадменны сакратар і акадэмік АН БССР. Праводзіў не толькі ўласныя даследаванні, але і шмат энергіі аддаваў на арганізацыю новых кірункаў беларускае навукі і ўзгадаванне маладых навуковых кадраў.

У 1930 годзе разам з іншымі выдатнымі дзеячамі навукі і культуры Вацлаў Ластоўскі быў арыштаваны і засуджаны па сфабрыкаванай НКУС справе гэтак званага Саюза Вызвалення Беларусі на высылку за межы БССР. На пачатку 1938 года паўторна арыштаваны ў Саратаве і 23 студзеня расстраляны.

**Юрась КАЛАЧЫНСКІ.**

### Чаму час нашага адраджэння пачатку XX стагоддзя называецца «нашаніўскім кругабегам»?

Штотыднёвая грамадска-палітычная газета «Наша Ніва» выдавалася ў Вільні з 10 лістапада 1906 да 7 жніўня 1915 года, калі была зачыненая ў сувязі з падзеямі Першай сусветнай вайны. Арганізавалі выданне і кіравалі ім лідэры Беларускай Сацыялістычнай Грамады Іван і Антон Луцкевічы і Аляксандр Уласаў, які са снежня 1906 года быў афіцыйным рэдактарам. У сакавіку 1914 года яго змяніў на гэтай пасадзе Янка Купала.

«Наша Ніва» адыграла выключную ролю ў нацыянальным абуджэнні беларусаў, у згуртаванні і выхаванні нашай інтэлігенцыі, у барацьбе за грамадскае прызнанне самога факта існавання беларускага народа і яго роўнасці з іншымі народамі, у развіцці беларускай літаратуры і сучаснай літаратурнай мовы. На старонках газеты публікаваліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Вацлава Ластоўскага, Каруся Каганца, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Сяргея Палуяна, Лявона Гмырака, дзесяткаў іншых пісьменнікаў і публіцыстаў.

Газета выступала супраць афіцыйнай царскай палітыкі, накіраванай на раскол беларускага народа паводле веравызнання (на «рускіх» і «палякаў»), выкрывала рэакцыйны характар дзейнасці расейскіх і польскіх шавіністычных арганізацый, якія з дапамогаю праваслаўнае царквы і каталіцкага касцёла займаліся русіфікацыяй і паланізацыяй беларускага насельніцтва, настойліва патрабавала ўвядзення ў школу, царкву і касцёл беларускай мовы, пераходу іх на беларускія нацыянальныя пазіцыі.

Пры рэдакцыі газеты, дзякуючы намаганням Івана Луцкевіча, стварыўся Беларускі нацыянальны музей. На яе базе паўсталі сельскагаспадарчы часопіс «Саха» і часопіс для моладзі «Лучынка», выдаваўся вельмі папулярны штогадовы «Беларускі каляндар», дзейнічала кніжнае выдавецтва.

Такім чынам, паняццем «нашаніўскі кругабег» вызначаецца выдатная роля газеты «Наша Ніва» ў нацыянальным адраджэнні беларусаў пачатку XX стагоддзя.

У 30-х гадах бальшавіцкія ідэолагі ацанілі «Нашу Ніву» як кулацкае, буржуазна-ліберальнае, нацыяналістычнае выданне і фактычна выкраслілі з гісторыі. А пазней некаторыя савецкія «гісторыкі» нават далучалі яе да чарнасоценна-акцябрысцкага лагера. Узапраўды ж газета была цэнтрам беларускага нацыянальнага руху, заклала падмурак адраджэння нашае дзяржаўнасці. «Наша Ніва» змагла адыграць ролю абуджальніка народа і падрыхтаваць найбольш актыўныя і сведамыя сілы Беларусі да барацьбы за яе нацыянальныя інтарэсы ў пазнейшых выпрабаваннях.

**Міхась БІЧ.**

## ВЕЧАРЫНЫ

# «Ой, Божа ж, Божа, што за вайна?»—

***спявала Валянціна Якімовіч на ўрачыстай вечарыне, прысвечанай 430-м угодкам славутай перамогі войска Вялікага Княства Літоўскага на рацэ Вуле 26 студзеня 1564 года. Шмат хто з прысутных упершыню чуў гэтую беларускую баладу «Ляцела куля цераз раку», шмат хто з прысутных упершыню пачуў і пра гэтую бітву.***

***Яна была толькі адным эпізодам той страшнай вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім, што называецца Лівонскай вайной 1558—83 гадоў, але, відаць, павінна была называцца Полацкай, бо вялася пераважна на Полаччыне.***

Полацкая дзяржава здаўна кантралявала водны шлях да Венедскага мора. Дзеля гэтага на Дзвіне былі заснаваны два гарады — Герсіка і Кукейнас, якія з цягам часу сталі княствамі. Яны мірна ўжываліся з лівамі — тыя плацілі даніну Полацку. У полацкіх князёў прасілі дазволу на хрышчэнне ліваў святары, што разам з рыцарамі ордэна мечаносцаў ішлі ўсталёўваць хрысціянскую веру на берагах Дзвіны. Паступова Полацк страціў свае ўладанні і ўплыў у Ніжнім Падзвінні. Там спачатку запанаваў Лівонскі ордэн, а пасля ўтварылася дзяржава, якая залежала ад немцаў. Але ў XVI стагоддзі з прычыны міжканфесійных звадаў Лівонія страціла сваю моц. (Маскоўская дзяржава вырашыла скарыстаць з гэтага яе стану). Каб забяспечыць сябе ад верагоднага падзелу паміж Швецыяй, Даніяй і Расіяй, вялікі магістр Лівонскага ордэна Фюрстэнберг вырашыў перадаць прыбалтыйскія землі пад пратэктарат Вялікага Княства Літоўскага. Дамова была падпісана ў Пасвалісе ў 1557 годзе. І неўзабаве да лівонскіх межаў рушыла 40-тысячнае маскоўскае войска, у якім былі татарскія атрады. На пачатку наступнага года «маскавіты» дайшлі да Рэвеля (Талін). Была захоплена нават крэпасць Нарва, што распаліла апетыт маскоўскага цара. Іван Жахлівы запатрабаваў, каб вялікі магістр Лівонскага ордэна прысягнуў яму на вернасць, як гэта зрабілі астраханскі і крымскі ханы.

Масковіі спрыяла міжнародная сітуацыя. Яна заключыла саюз з Швецыяй і карыстала з зацікаўленасці папскай курыі, якая ўважна сачыла за падзеямі ва Усходняй Еўропе ды імкнулася заручыцца падтрымкай Расіі ў барацьбе з пратэстантамі.

У ліпені 1558 года маскоўскія войскі захапілі Дэрпт (Тарту). Вясною наступнага было падпісана перамір'е. Але яно не ўратавала Лівонію ад распаду. На яе землі рушылі яшчэ шведы і датчане. Новы магістр ордэна Кетлер новай дамовай пацвердзіў імкненне Лівоніі да саюзу з ВКЛ. У студзені 1560 года ў Маскву прыехаў пасол Жыгімонта Аўгуста з патрабаваннем, каб Іван Жахлівы не парушаў лівонскіх межаў, бо краіна ўжо знаходзіцца пад апекай Вялікага князя ВКЛ.

Пазней Іван Жахлівы спрабаваў дамагчыся свайго праз сваяцтва з Вялікім князем ВКЛ. Але сват у адказ пачуў, што пра шлюб з сястрою Жыгімонта Аўгуста можна гаварыць толькі пасля таго, як Масковія аддасць захопленыя Смаленск, Пскоў, Севершчыну.

Тым часам Кетлер згадзіўся аддаць Лівонію Вялікаму Княству Літоўскаму, а сабе пакінуў толькі Курляндыю. Адпаведны акт быў падпісаны 28 лістапада 1561 года ў Вільні. Гэта перакрэслівала планы Масковіі, і яна пачала рыхтавацца да вайны з ВКЛ.

Зімою 1562—63 гадоў пад Мажайскам для паходу на нашыя землі было сабрана 80-тысячнае маскоўскае войска. 31 студзеня яно падышло да Полацка, які праз два тыдні аблогі быў захоплены. Горад быў разграблены, яўрэяў утапілі ў Дзвіне, а рэшту жыхароў пагналі ў няволю. Так пачалася гэтая жудасная вайна.

«...Кроў налілася рэчанькаю...» — спявала Валянціна Якімовіч. Най верагодней, што гэтая балада была складзена непасрэдна пасля бітвы на рацэ Вуле, або, як пісалі храністы, на полі Іванскім.

Непасрэдна пра бітву распавядаў на вечарыне Павел Лойка. Ён прыгадаў, што слаўная перамога на Вуле (як і шэраг іншых — ля возера Дурбе, пры Сініх Водах, пад Грунвальдам і Оршай) даказала, што наш народ цаніў незалежнасць і ўмеў бараніць сваю Айчыну ад захопнікаў.

У Полацкай вайне праявіўся талент найвышэйшага гетмана ВКЛ Мікалая Радзівіла Рудога. Ён распрацаваў стратэгічную абарону дзяржавы. Напачатку было вырашана не дапусціць злучэння 80-тысячнага войска князя Сярэбранага, што стаяў каля Оршы, і 30-тысячнага войска ваяводы Пятра Шуйскага, які ішоў туды з-пад Полацка. Вялікакняскія ваяры сачылі кожны крок непрыяцеля. Бой вырашылі даць ля Чашнікаў, на Іванскіх палях па-над рэчкай Вулай. Раптоўная атака радзівілаўскіх ваяроў — 5 тысяч коннікаў — вырашыла лёс бітвы. Войска Шуйскага было разгромлена, на Іванскім полі загінуў і сам ваявода.

Праз некалькі дзён пад Оршай сваё майстэрства паказалі вершнікі аршанскага старасты Філона Кміты-Чарнабыльскага. Маскоўскае войска вымушана было ўцякаць.

Гэтыя дзве бітвы спынілі маскоўскую агрэсію супраць Вялікага Княства Літоўскага. Але пасольства Юрыя Хадкевіча ў Маскву не прынесла спадзяваных вынікаў. Іван Жахлівы, адмовіўшыся ад прэтэнзій на Валынь, Падолле, Кіеў, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ, не выракся жадання валодаць Прыбалтыйскімі землямі. Ды лёс так званай Лівонскай вайны быў вырашаны слаўнымі перамогамі нашых ваяроў, якія пасля бітвы на Вуле яшчэ не аднойчы грамілі захопнікаў. У 1579 годзе быў вызвалены Полацк. Няўдалая для Маскоўскай дзяржавы вайна скончылася перамір'ем, падпісаным у Ківеравай Горцы (між Псковам і Вялікімі Лукамі) 15 студзеня 1582 года. Пскоўскія гарады, захопленыя войскам Стэфана Баторыя, перадаваліся Масковіі. Тая ж адмаўлялася ад лівонскіх гарадоў, а таксама абавязвалася не патрабаваць Веліжа, Усвят, Азярышча, Сокала ды іншых гарадоў, што належалі Полацку.

Можна ўпэўнена сказаць, што перамога на Вуле амаль на 200 гадоў аддаліла захоп нашых земляў Маскоўскай дзяржавай. Што значылі гэтыя гады для развіцця гарадоў, гаспадаркі — пра гэта распавядаў архітэктар Уладзімір Трацэўскі. Уладзімір Васілевіч у свой час даследаваў Радзівілаўскі архіў і быў надзвычай уражаны высокім горадабудаўнічым талентам Радзівілаў. Прыкладам, праект езуіцкага калегіума ў Нясвіжы і славутага фарнага касцёла карэктаваўся і ўзгадняўся Радзівіламі. Захаваліся чарцяжы і планы забудоваў вёсак ды іншых дробных паселішчаў, выкананыя асабіста Мікалаем Радзівілам Чорным.

Шаноўны Язэп Юхо, гісторык і прафесар права, засяродзіў увагу прысутных на прававых аспектах рэгулявання вайсковай справы ў ВКЛ. Адзін з першых такіх прававых актаў — Прывілей Ягайлы 1387 года, у якім упершыню быў ужыты тэрмін Пагоня: усе, хто здольны насіць зброю, павінны былі бараніць Айчыну.

Вядомы літаратуразнаўца, гісторык і публіцыст Іван Саверчанка гаварыў пра высокі ўзровень культуры ў тагачаснай нашай дзяржаве. Канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны, брат слаўнага пераможцы ў Вульскай бітве, быў таленавітым пісьменнікам. Ён вядомы як аўтар некалькіх літаратурных твораў і унікальных палемічных лістоў, напісаных на лацінскай мове. Яны былі вядомыя ўсёй Еўропе і сведчылі пра высокі інтэлектуальны ўзровень кіраўнікоў тагачаснай беларускай дзяржавы. Вялікую цікавасць выклікае сёння ў свеце Біблія, надрукаваная ў Берасці ў 1563 годзе, калі ішла вайна з Масковіяй. Над яе перакладам у горадзе па-над Бугам працавалі, апроч самога Мікалая Радзівіла Чорнага, яшчэ амаль трыццаць вучоных з усёй Еўропы. Гэта быў час, калі ў Нясвіжы рыхтаваў свой катэхізіс на дасканалай беларускай мове Сымон Будны (выдаў яго ў 1562 годзе), і праз 10 гадоў пасля вызвалення Полацка Будны удзельнічаў там у дыскусіях з езуітамі...

Што б здарылася, каб нашыя продкі не перамаглі на Іванскіх палях? Іван Саверчанка назваў Вульскую бітву абаронай нашай культуры. Як вялікае палітычнае значэнне і ў тым, што Радзівілам удалося адцягнуць падпісанне Люблінскай уніі — на 5 гадоў пазней, чым гэтага дамагаліся польскія магнаты.

Пра вялікае выхаваўчае значэнне гэтай слаўнай перамогі гаварыў старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалай Статкевіч. Такія падзеі нашай гісторыі дапамагаюць нам абудзіць нацыянальны гонар, пазбавіцца комплексу непаўнацэннасці ды ўзняць горда вочы ўгару. Постаці людзей, што мужна баранілі Айчыну на Іванскім полі, асабліва велічныя, калі параўнаць іх з тымі, хто пастаўлены над намі сёння. Яны не здольныя кіраваць эканомікай, заплямленыя карупцыяй, занятыя гульнёй у перавароты. Спадар Статкевіч сказаў, што святкаванне перамогі на рацэ Вуле ладзіцца толькі для ўшанавання памяці продкаў і выказаў спадзяванне, што расійскі народ з годнасцю перажыве цяжкі перыяд распаду імперыі ды вылечыцца ад імперскай хваробы.

На гэтай урачыстай вечарыне, наладжанай камісіяй БНФ па гісторыі і культуры, прысутнічала Ала Мароз, нашчадак славутага роду Радзівілаў. Яна, «як беларуска, як маці», звярнулася да прысутных зрабіць усё магчымае, каб шанавалася нашая нацыянальная годнасць, каб у нашай краіне быў лад і спакой.

А яшчэ ў той вечар, 26 студзеня, Галіна Дзягілева чытала верш Ул. Караткевіча, а Валянціна Якімовіч — апавяданне Максіма Гарэцкага «Бітва на Вуле», Кастусь Герашчанка спяваў свае песні, прысвечаныя Мікалаю Радзівілу Чорнаму. Прысутныя на вечарыне дружна пляскалі ў далоні і падпявалі хору «Спадчына» 198-й Менскай гімназіі, якім кіруе Мая Васільеўна Яроменка. Удзельнікі вечарыны ўбачылі карціну «Вульская бітва» — дыпломную работу маладога мастака Алеся Філіповіча. Яго калега Рыгор Сітніца выставіў тут жа графічны ліст, прысвечаны роду Радзівілаў — мудрых дзяржаўных дзеячаў, ваяроў, рыцараў. На выставе, якая яшчэ дзейнічае, можна ўбачыць таксама гравюры Міколы Купавы («Элегія. Прысвячэнне Мікалаю Радзівілу Чорнаму», мініяцюры з выявамі беларускіх замкаў і гарадоў XVI стагоддзя — Менска, Койданава, Полацка, Віцебска, Вільні ды іншых).

**Здзіслаў СІЦЬКО.**

P. *S.* Як паведамілі рэдакцыі, святкаванне 430-х угодкаў перамогі на рацэ Вуле працягвалася ў мясцінах, дзе адбылася гэтая бітва. 29 студзеня сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў з дапамогай аднадумцаў з Чашніцкага раёна ўстанавілі памятны знак на валуне ўзбоч дарогі недалёка ад вёскі Іванск. На ўрачыстасць сабралася шмат мясцовых жыхароў. Праваслаўны святар з Чашнікаў адслужыў малебен, з кароткімі прамовамі выступілі сябры БЗВ і Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», якіх вяскоўцы сустрэлі вельмі зычліва, дзякавалі за магчымасць прысутнічаць на малебне ды абяцалі даглядаць помнік. Да памятнага знака былі пакладзены вянок і кветкі.

У той жа дзень увечары ў Віцебску перад уваходам у тэатр імя Якуба Коласа быў наладжаны мітынг. Не зважаючы на спробы актывістаў Славянскага сабора «Белая Русь» перашкодзіць, сябры БЗВ і БНФ расказалі віцябчанам пра слаўную перамогу нашых продкаў, пра сучасны стан рэспублікі. Мітынг закончыўся мірна, старшыня БЗВ падзякаваў прысутным і за тое, што яны, хоць маюць іншыя палітычныя погляды, усё ж прыйшлі на свята — адзначыць разам вялікую гадавіну бітвы на Вуле.

Пазней у перапоўненай зале тэатра адбылася сустрэча жыхароў Віцебска з народнымі дэпутатамі ад апазіцыі. Напачатку вельмі непрыгожа вялі сябе асобныя людзі сталага ўзросту. Зянону Пазьняку давялося зрабіць ім заўвагу: які яны паказваюць прыклад моладзі! І пасля гэтага выступленні дэпутатаў Беленькага, Баршчэўскага, Навумчыка і старшыні Незалежных прафсаюзаў Беларусі Генадзя Быкава ніхто не перапыняў.

Задаволеныя, хоць і стомленыя, вярталіся менчукі дамоў. Радасна было на душы ад разумення таго, што яны сказалі праўду людзям. Прыемна было ім убачыць прыхільнасць віцебскай міліцыі, якая спаткала гасцей з сталіцы вельмі насцярожана, але пазней апекавалася імі. Была нават прызначана машына для суправаджэння.

*Чыталі?*

# Дзе ж знайсці гэтыя кніжкі?

*Чыталі?*

**«Настаўніцкая газета» (№ 3, 29 студзеня г.г.) завяршыла друкаванне матэрыялу «Што варта прачытаць гісторыку» (навуковая і публіцыстычная літаратура пра мінулае, складальнік — С. Барыс). Вядома, даць настаўнікам гісторыі, вучням старэйшых класаў своеасаблівы компас у кніжным моры — справа пачэсная і адказная. У спіс уключана шмат сапраўды добрых і карысных, патрэбных кніг (хоць далёка не ўсе), знаёмства са зместам якіх павінна садзейнічаць росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. На жаль, тут сустракаюцца таксама выданні, насупраць якіх хочацца паставіць вялікі пытальнік («Тысячелетие России. 862—1862». Симферополь, 1992; Г. Бретон. «Любовные истории в истории Франции», М., 1992; А. Леви. «Женщины в жизни Наполеона», Вильнюс, 1992; Г. Эджингтон. «Адмирал Нельсон. История жизни и любви», М., 1992 і інш.). Няўжо тады, калі беларусам катастрафічна нестае ведаў з мінуўшчыны роднай Бацькаўшчыны, нашым грамадзянам у першую чаргу неабходна ў што б там ні стала даведацца аб амурных захапленнях Напалеона і Нельсана, аб акультных прароцтвах Настрадамуса ці алькоўна-куртуазных прыгодах знаці ў сярэднявечнай Францыі?**

**Адзначым і тое, што карыстацца спісам гэтай літаратуры сёння змогуць толькі ў сталіцы і буйных гарадах, бо ў гарадах невялікіх, у мястэчках і вёсках добрых кніг па беларускай мінуўшчыне, як і ўчора, няма. Дарэчы, якраз пра гэта сведчыць нядаўняя пошта «Нашага слова».**

**М. В.**

# ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ




# НАША СЛОВА

***«Наша слова» — пастаянна дзеючая трыбуна руплівуцаў беларушчыны***

**Калі выпішаце «Наша слова», Вы атрымаеце магчымасць штотыдзень знаёміцца з экспрэс-аналізам падзей нацыянальнага жыцця Беларусі і свету**

**Падтрымліваць сувязь з лепшымі знаўцамі мовы і гісторыі і карыстацца іх парадамі**

**Чытаць успаміны дзеячаў культуры, згадкі, архіўныя знаходкі**

**Разнастайныя паведамленні пра беларускае замежжа**

**Агляды рэгіянальных выданняў ТБМ**

**Пераклад вострасюжэтнай прозы лепшых майстроў слова**

**Кніжныя навіны. Размоўнікі. Радавод. Народную лякарню. Гумарэскі. Эпіграмы і інш.**

***І гэта ўсяго за 150 руб. у месяц ці 450 руб. за квартал***

***Продаж у розніцу вельмі абмежаваны. ІНДЭКС для падпіскі 63865.***

Супрацоўнікі і рэдкалегія «Нашага слова» звяртаюцца да ўсіх сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны і нашых актыўных аўтараў размножыць і размясціць рэкламу «Нашага слова» на відных месцах і наогул паспрыяць падпісцы.

---

*Пародыі*

*Георгій* ***ЮРЧАНКА***

## Сумна-думныя ўспаміны

*Жоўтае неба,*
*Жоўтыя сосны,*
*Жоўтай тугою дальні плёс.*

*Сінія мары,*
*Сінія шыбы,*
*Сінія кроплі на акне.*

Валянціна Хамчук

Цяжкае мора,
Лёгкія хвалі,
Веснія думкі ўразлёт.

Вузкія сцежкі,
Пульхныя далі,
Волкай смугі калаўрот.

Бляклыя стрэчы,
Свежыя росы,
Зябкіх павеваў прасцяг.
Жоўта-зялёна –
карычневы россып
Цьмяна-ліловых разваг.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**24 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР**

16.40. Для школьнікаў. «У Бярэзінскай гасцёўні». Літаб'яднанне СШ № 1 г. Беразіно.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
20.00. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**25 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА**

15.05. Радавод. Палескія вяселлі.
17.30. У «Паэтычнай гасцёўні». Р. Тармола-Мірскі.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**26 ЛЮТАГА, СУБОТА**

9.50. Паказвае Гомель.
12.35. «Усе мы родам з дзяцінства». І Рэспубліканскі тэлевізійны фестываль (Гродна і Гродзенская вобласць).
17.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Залатая дзесятка». Першы тэлевізійны конкурс маладых палітыкаў. Другі паўфінал.
19.00. Нацыянальны фестываль аўтарскай песні «Залатая горка»-94. Трансляцыя з Палаца культуры чыгуначнікаў.
21.00. Панарама.
21.50. «Зоркі» на экране. «Дабрачынны баль». Мастацкі фільм.
23.15. НІКа.

**27 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ**

11.40. «Усе мы родам з дзяцінства». Частка другая.
15.40. Да І Міжнароднага фестывалю фальклору на Беларусі. Круглы стол.
18.40. «Гінес-шоу».
20.00. Панарама.
21.10. «Ашалелы баран». Мастацкі фільм (Францыя).

## УВАГА!

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны арганізуе курсы беларускай мовы для пачынаючых (пасля заканчэння выдаём адпаведныя пасведчанні) і абітурыентаў (па беларускай мове — вусна, пісьмова і па роднай літаратуры).

На курсах будуць выкладаць высокакваліфікаваныя спецыялісты.

Заняткі пачнуцца па меры камплектавання навучальных груп.

Даведкі па тэлефонах: 33-25-11, 33-13-52.

◆◆◆

5 лютага адбылося пасяджэнне аргкамітэта па правядзенні Першага Нацыянальнага джэмбары (злёту) аб'яднання беларускіх скаўтаў.

Былі абмеркаваны арганізацыйныя і фінансавыя пытанні.

Вырашана правесці джэмбары з 9 па 15 ліпеня непадалёку ад Ракава.

У злёце прымуць удзел таксама скаўты з далёкага і блізкага замежжа.

Прадпрыемствы і асобы, якія пажадаюць быць спонсарамі правядзення злёту, могуць пералічыць свае ахвяраванні на р/р 700322, код 369 у Белпрамбудбанку г. Менска. Кантактны тэл. (0172) 33-22-52.

*ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»*

## Жартуюць жыхары туманнага Альбіёна

**ЦУДОЎНЫ ВЕЧАР**

— Учора я цудоўна правёў вечар!
— Напэўна, былі ў тэатры?
— Я — не, там была мая жонка!

**ЦУДОЎНАЯ ПАРТЫЯ**

— Вы хочаце ажаніцца з маёю дачкой? А вы зможаце ўтрымліваць сям'ю, мілорд?
— А як жа, змагу. У мяне ёсць прайгравач і аж пяцьдзясят кружэлак!

**ПАКОРНАЯ ЖОНКА**

Сяброўка: І ты сапраўды слухаешся свайго Джона?
Джонава жонка: А як жа! Ён кажа: «Рабі як хочаш, любая!» І я заўсёды так і раблю.

**КАКЕЦТВА**

— Я ўчора бачыў вашу жонку. Яна так кашляла, што на яе азіраліся. Яна раптам не захварэла?
— О не! Яна ўчора апранула новую сукенку.

**НААДВАРОТ**

Раўнівая жонка дакарае свайго мужа:
— Варта табе ўбачыць прыгожую кабету, як ты адразу ж забываеш, што жанаты.
— Наадварот,— бароніца муж,— менавіта тады я пра гэта ўзгадваю!

**ФУТРА**

— Думаеш, я буду насіць гэта футра з вавёркі ўсё жыццё?
Ён (бадзёра): А чаму б не, любая? Носяць жа вавёркі!

**ІДЭАЛ**

— І ў мяне быў некалі ідэал.
— Куды ж ён падзеўся?
— Я выйшла за яго замуж.

**САБАЧАЕ ЖЫЦЦЁ**

— Сабачае жыццё ў нас, мужчын! — кажа містэр Ален сваёй жонцы.
— Ды ўжо ж,— згадзілася місіс Ален.— Днём вы скуголіце, а ўсю ноч даяце храпака.

З англійскай пераклаў Пятрусь КАПЧЫК.


Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 62.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.
Наклад 8954 паасобнікі
Падпісана ў друк 21.02.1994 г.
у 15 гадзін.